*Цімур БУЙКО*

# «КАХАЮ». І КЛІЧНІК!



***Цімур Буйко нарадзіўся 5 ліпеня 1995 года ў Віцебску. Звычайны чалавек, са звіхамі і праўкамі, — піша. І яшчэ: «Хаця ўўціснуцца карэньчыкам пераплёту ў кніжную палічку — справа спакушальная, але да таго не імкнуся».***

**ГАРЛАЧЫК І ЛІЛЕЯ**
**(Развітанне)**

Ашчаперыў другую восень
паўзабыты гадовы смутак,
абяцаны старэчай млосцю.
Неданоскаў бялюткіх мама
ператрэсла чыгунны попел
на рухавыя ножкі плыні.
Прыгажуня-лілея моўчкі
несуцешна глядзела ў люстра,
прычакаўшы заходу сонца.
Таласою блішчэлі воды,
не спяшаўся гаротны вецер
да каханай царыцы кветак.
Заглядаўся гарлачык белы
на чужую нявесту ночы.
Балявала самотна ціша.
Нераскрыты дзіцёнак свету
саматугам ірваўся крыкнуць
аб каханні ў замглёны вечар.
І пялёсткі ружанцам кволым
абдымалі надзею-зорку,
светапалу жывога іскру.
Узышоўшы вялебным знічам,
па нявесце гарлачык плакаў
надарванай слязою шчасця.
Невядомы ліхтарнік неба
у люстэрка павольнай рэчкі
любаваўся царыцай кветак.

* * *

*Amor tussisque non celatur*

Калі б нарэшце ты магла
пра ўсё даведацца заўчасна...
Твае ўскалыханыя пасмы
гатовы ў сэрцы запалаць.
Імгненнай жарсці вулканы

зыркочуць лавай неспадзеўкі.
Мільгаюць промністыя вейкі,
брывяты зладжаныя ў ніць.
Узняўшы кроплі вачанят,
прагоніш літасціва смагу.
Вады чысцюсенькае прагну,
лаўлю нявызнаны пагляд.
...У паркалёвым тумане
Прыгоства ціхае свяціла,
пры ззянні месячыка сціплым
ішло з нябёсаў да мяне.
Радзела ўпоцемках імгла,
ясней цвіла пачуццяў краска,
калі даведацца заўчасна
пра ўсё нарэшце ты змагла.

* * *

Ашчаперана крыламі рэк паўнаводных,
запырскала сэрца крынічнай крывёй.
Полюсы зварухнуліся,
кіпнем шалёным прабіліся вечныя льды.
І коцікі вербаў грамадай плывуць
наперад у шлях сакавіцкі.
Грабарам душы самавітай рыдлёўкай
рубіны кахання здабыты.
Плюскоча жамярка у сонечным мёдзе.
Жыццё, ты вясна! Вясна, ты каханне!
Дзе молаты пару іскрыстай любові,
спадзеваў жаданых, чуллівай смугі
выплёўваюць смела праз мілі, парсекі,
экватары, грынвічы, мерыдыяны.
Сягайма да зорак, сядлайма планеты,
імклівасць каметы!
Абгонім упарта
Сусветы!

**З «ПАЭМЫ ГНЕВУ»**

Брамы раскрыюцца шалу
тысячаводных каналаў.
Буду вірлівае семя
паводкамі сеяць.
Нябесся хаўтуры
нізрынуцца бурай
на чэрапы вашы
каменнаважка.
Мачанкі паднебнай
усе нахлябаюцца,
глытарнямі пеўняў
з ночы да раніцы.
Гнеў мой дарэшты
сярбаламі ўсмокчуць
праведны, грэшны,
д'ябал і Ойча.
Будзе народжана
чара мая векапомная
чорнаю поўняю
над агароджаю.
Бацькі Пелея
сыне вялебны!
Табе, Ахілесе, мой братка,
не тое, каб дзеля парадку,
прыношу крывавы расольчык.
Сядай на услончык:
не вычарпаць хеўры
прызначанай меры!

* * *

Вяшчайце
з усіх кайданаў
маё каханне!
З мігатлівых
зорак тэлескапічных
скажыце мне:
«Кахаю». І клічнік!
Шыхтуецца збродзень,
заточка за спінай.
Мой любы народзе,
я сёння святкую
РАДЗІНЫ!

* * *

Перастварыць і выкрасліць,
наноў адсекчы лішняе.
Зашытым вуснам прыкрасці
пагарда боль суцішвае.
Скамечаным паперынам
зашыцца ў куце сметніцы.
Усё, што не праверана,
прымерыцца, пацвердзіцца.
Таўчы не спапяліўшыся,
разлічваць не чытаючы.
Дзе костачкай у вішаньцы
мігціць надзея ўдалечы.